


*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# Наша слова






Газета выходзіць з сакавіка 1990 года | № 1 (335) | 1-10 СТУДЗЕНЯ 1998 г.


## *Паважаныя сябры, прыхільнікі і руплiўцы роднага слова!*




Вось і адыходзіць у гісторыю яшчэ адзін год нашага жыцця, год спадзяванняў, трывог і працы.

Якім ён быў для нас 1997-ы? Нялёгкім і няпростым. Прайшоў чарговы з'езд Таварыства, выбрана новае кіраўніцтва арганізацыі, распачата надзвычай нялёгкая і напружаная работа па выкараскванню з даўгоў і запазычанасці. У выніку зацяжнога эканамічнага крызісу ў краіне і зацяжной дзяржаўнай абыякавасці да развіцця нацыянальнай культуры наша Таварыства апынулася ў сярэдзіне года на мяжы самаліквідацыі: спыніўся выпуск газеты "Наша слова", у суд з зыскам да ТБМ звярнуліся камунальныя службы, адключылі тэлефон у нашай сядзібе... Толькі дзякуючы самаахвярнай фінансавай падтрымцы сяброў з блізкіх і далёкіх гарадоў і вёсак Таварыства выжыла і пачынае зноў станавіцца на ногі. І сёння першае маё слова шчырай павагі і ўдзячнасці — вам, добразычліўцы і абаронцы Беларушчыны, старыя і маладыя, шырока вядомыя і сціпла непрыкметныя, заможныя і не вельмі. Ваша разуменне, ваша падтрымка, вашы запрацаваныя ашчаджаныя рублі адчынілі ў цэнтры Менска шапік, актывізавалі дзейнасць рэгіянальных суполак. Ваша вернасць Бацькаўшчыне, мачтынаму слову, ідэям Адраджэння пасяляе ў душы ўпэўненасць у годным заўтрашнім дні нашай арганізацыі, асвечанай высокім імем Францішка Скарыны.

Нізка пакланіцца хачу і настаўнікам ( а найчасцей гэта — настаўніці) беларускай мовы і літаратуры, усім беарускамоўным выкладчыкам, выхавальніцам дзіцячых садкоў, якія сеюць у душы нашых юных землякоў залатыя зярняты нашай старадаўняй мілагучнай мовы — найпершай адзнакі непаўторнасці і неўміручасці беларусаў...

Хай вясёлымі будуць для ўсіх вас Каляды! Хай гучыць у вашых хатах і сэрцах добрая песня!

Спадзяюся, што Новы год прынясе на нашу зямлю цеплыню любові і даверу, гарантыі незалежнасці і дэмакратыі, заруку поспехаў і дабрабыту.

З Новым годам, з новым шчасцем, дарагія людзі!

**Генадзь БУРАЎКІН,**
**старшыня таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.**

## Віншуем усіх чытачоў газеты "Наша слова" з Новым 1998 годам

Жадаем усяго самага найлепшага. Чакаем ліставання ад тых, хто любіць родную мову.

Сябры гуртка беларусазнаўства пры інтэрнаце № 6 ААТ "Лідахарчканцэнтраты".

Наш адрас: 321300 г. Ліда, вул. Багратыёна, 6.

## КАЛЯДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАННЕ ЎСІМ ПРАВАСЛАЎНЫМ ВЕРНІКАМ БОГАМ БЕРАЖОНАЙ БЕЛАРУСІ

"Як прыйшла поўня часу Бог паслаў Сына свайго"

Мір і блаславенне Божае вам, дарагія мае браты і сёстры, родныя дзеці святой зямлі Беларускай. Дзякуй нябеснаму Айцу за тое, што і наш беларускі народ сёння святкуе нараджэнне Госпада і ратаўніка нашага Ісуса Хрыста, які прыйшоў у гэты свет, каб вывесці ўсіх людзей з нявolі грахоў і вясці іх да вышэйшага духоўнага ўзроўню. Хрыстос прыйшоў на зямлю, каб кожны чалавек пазбавіўся страху перад тымі хто творыць злаброду і прыніжае годнасць людзей, прагнула зрабіць іх рабамі, пазначыць саўдзельнікамі свайго граху. Сын Божы патрабуе ад нас хрысціянаў змагацца за правы чалавека усяляк баронячы сябе і іншых ад



усялякай дыктатуры, якая імкнецца знішчыць годнасць чалавека, створанне Божага.

Мы, беларусы, павінны быць удзячны Госпаду за тое, што ён прыняў нас у сям'ю хрысціянскіх народаў і тым самым зрабіў нашу нацыю здольнай рухацца па шляху ўдасканалення свайго жыцця па гэтай зямлі, якую ён даў нам спрадвеку ў спадчыну.

Дарагія мае адзінародныя браты і сёстры, будзем жа весяліцца, бо Госпад наш Ісус Хрыстос прыйшоў на Зямлю, каб прынесці мір і збаўленне ад ланцугоў, страху і граху. Давайце ж усе разам з анёламі нябесным спяваць: "Слава на Вышынях Богу, на Зямлі мір, у любові і добрай волі". Дык няхай жа Хрыстова нараджэнне станецца святам радасці ўсім вам і хай блаславіць Бог усіх вас.

Хрыстос нарадзіўся! Яго слаўце!

**Каляды. 1998 год Нью-Ёрк, ЗША.**
**Архіепіскап Юры, першагерарх Беларускай праваслаўнай царквы.**

## Як падпісвалі на "Наша слова"

З незалежнай прэсы даведаўся, што аднаўлены выпуск газеты "Наша слова". А таму, калі 17 лістапада пайшоў на пасялковую пошту, каб аформіць падпіску газет і часопісаў на першае паўгоддзе 1998 года, то ў першую чаргу пачаў шукаць індэкс 63865.

У раздзеле "Абласныя газеты" на стар. 18 знаходжу запіс: "63865 — Наша слова (Лида) -І—12000—36000—72000 — але закрэслены шарыкавай ручкай. А раз закрэслены — значыць падпіскі няма. Чаму?

Звяртаюся да супрацоўнікаў пошты. Аказваецца, падпісацца можна і аб гэтым ёсць запіс пад тэкстам і самым нізе старонкі 13.

У сённяшняй антыбеларускай кампаніі проста не верыцца, што гэта прыкрая памылка раённых, ці абласных паштовых чыноўнікаў. Гэта паслядоўная палітыка русіфікацыі. Беларусы, не давайце ператварыць вас у быдла!

**Міхась ВЕРАЦІЛА**
**п. Краснасельскі.**

* * *

Некалькі аналагічных сігналаў паступіла і з Менску. У адным аддзяленні сувязі "Наша слова" было выкраслена. Яшчэ ў некалькіх запатрабавалі даплату за дастаўку з Ліды да Менску, хаця на дамове рэдакцыя плаціць за дастаўку па ўсёй Беларусі.

Але, пакольні, сігналаў было не шмат, будзем спадзявацца, што гэта ўсё такі самадзейнасць асобных "рюских", якім не да спадобы беларускае слова.

Між тым, на жаль, вельмі мала людзей падпісалася сёлета на "Наша слова": на 29 снежня — усяго 166 чалавек.

Мы не расчараваліся такім вынікам. Мы ведаем, што газета павінна заваяваць свайго чытача і будзем гэта рабіць.

## АХВЯРАВАННІ НА ТБМ

| | |
|---|---|
| С. В. Купрыянава | 200 тыс руб. |
| Уладзімір Цярохін | 560 тыс. |
| Сябры Полацкай гарадской рады ТБМ: | |
| — Т. П. Гарэлікава | |
| — У. Г. Варонін | |
| — Г. У. Вераб'ёва | |
| — В. П. Баравая | |
| — супрацоўнікі гімназіі, СШ № 14, 8, 4, 15 | 2 млн. руб. |
| Тамара Цярэшчанка і менчукі | 2 млн. руб. |
| Алесь Карповіч і Латвійскі Фонд беларускай культуры г. Рыга: | |
| — Люба Міронава | 20 дал. |
| — Валянціна Піскунова | 16 дал. |
| — Янка Кабановіч | 200 тыс. руб. |
| — Сябры рады ЛФБК | 8 дал. |
| Фонд "Спадчына" г. Прага | 90 дал |
| Журналісты дэмактарычных выданняў | 100 дал. |
| Уладзімір Кішкурна | 300 тыс. |

*Кіраўніцтва ТБМ шчыра дзякуе ўсім ахвярнікам роднай мовы і запэўнівае, што вашыя грошы паслужаць Беларусі.*

**Старшыня ТБМ імя Францішка Скарыны**
**Генадзь Бураўкін.**

## Падпіска скончылася — падпіска працягваецца

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны заклікае ўсіх бацькоў, бабуль і дзядуль выпісаць для сваіх дзетак і ўнучкаў беларускія дзіцячыя газеты і часопісы. Сёння ўжо можна падпісацца на люты і пазнейшыя месяцы.

### БЕЛАРУСКІЯ ДЗІЦЯЧЫЯ ГАЗЕТЫ І ЧАСОПІСЫ!

Падпісаныя дадзеныя на І-ІІ кв. 1998 г.

| Індэкс | Назва | Перыядыч-ць | Кошт на 3 месяцы | Кошт на 6 месяцаў |
|---|---|---|---|---|
| | Газеты: | | | |
| 63877 | **Раніца** (Піянер Беларусі) Для дзяцей і падлеткаў. | 1/т | 7200 | 14400 |
| 63865 | **Наша Слова** Для дзяцей старэйшага ўзросту | 1/т | 36000 | 72000 |
| | Часопісы: | | | |
| 74822 | **Бярозка** Для дзяцей малодшага і сярэдняга ўзросту. | 6/пг | 36000 | 72000 |
| 74845 | **Вясёлка** Для дзяцей дашкольн. і малод. школьн. ўзросту. | 6/пг | 24000 | 48000 |
| 75086 | **Лесавік** Для дзяцей дашкольн. і малодш.школьн. ўзросту. Дэвіз выдання: "Любіць прыроду — любіць Радзіму". | 3/пг | 30000 | 45000 |

## Добры прыклад

Творчае аб'яднанне "Тэатральная ліга" звярнулася з пісьмом да Рэспубліканскай рады, у якім паведамляе пра магчымасць аплаціць падпіску на І квартал 1998 г. 10 камплектаў газеты "Наша слова" для школ, бібліятэк, малазабяспечаных грамадзян — прыхільнікаў беларускага слова, актыўных сяброў ТБМ.

Дзякуючы гэтаму шчыраму пачынанню, уладальнікам падпісных квіткоў стануць дзве школы г. Менска №№ 81, 96, а таксама восем руплiўцаў Беларушчыны, хто набліжае адраджэнне роднай мовы.

Такое фундатарства — добры прыклад для тых, хто мае магчымасць шырэй данесці ёмісты няўрымслівы, нязломны радок газеты ТБМ "Наша слова". Дык прадоўжым гэты пачатак, сябры!

## Усёй грамадой за Беларушчыну

Рэдакцыя газеты "Наша слова" выказвае шчырую падзяку Гарадзенскай абласной арганізацыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада" за кампутар, перададзены ў рэдакцыю і паведамляе, што гэты і папярэднія нумары "Нашага слова" набраны на вашым кампутары.

Рэдакцыя газеты "Наша слова" выказвае шчырую падзяку рэдакцыі газеты "Пагоня" за прынтар, перададзены ў рэдакцыю.

Разам нас шмат, разам мы сіла

## У Лідзе новая газета

Прадаўжаецца дэманапалізацыя лідскай прэсы. За апошнія 4 месяцы колькасць выданняў у Лідзе павялічылася у 3 разы. Да афіцыйнай "Лідскай газеты" і польскага штоквартальніка "Ziemia Lidzka" у верасні дадаліся часопісы "Лідскі летапісец" і "Оникс". З лістапада тут пачало выходзіць "Наша слова" і восьць 24 снежня выйшаў новы штотыднёвік -- газета "Тэлескоп". Заснавальнік -- Лідская друкарня. Рэдактар -- Ігар Брушкоў. Наклад -- 3000 асобнікаў. У аснове газеты усе тэлепраграмы, якія прымаюцца у горадзе, мясцовая і рэспубліканская інфармацыя, рэклама, аб'явы.



ТЭЛЕСКОП

ЛІДСКАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-ІНФАРМАЦЫЙНАЯ ГАЗЕТА

# ХТО ДАПАМОЖА МЭРУ ВОРШЫ?

У рэдакцыю газеты "Наша слова" паступіў ліст ад Ігара Супаненкі з Воршы наступнага зместу.

"Наша аршанская каталіцкая супольнасць вырашыла паставіць у горадзе крыж аршанцам, якія загінулі пад час Грунвальдскай бітвы. Я быў у мэра, расказаў аб нашым намеры, сказаў, калі нават улады не дадуць 1х1 м зямлі, дык усё роўна паставім. А летам нашы хлопцы паедуць у Польшчу і прывязуць адтуль зямлі, ў якой ляжаць Героі, і якая будзе ўрачыста закладзена пад крыжам.

Мэр адказаў, што будзе раіцца са сваёй гістарычнай камісіяй. Ён параіўся і прыйшлі да высновы, што не варта ставіць крыж ці які іншы манумент. Прычына — няма прамых сведчанняў таго, што ў складзе "... трох харугваў Смаленскай зямлі" (хроніка) была і аршанская харугва. Хаця ў асобных энцыклапедыях (гісторыя Беларусі і інш.) навукоўцы неяк даказалі, што харугва з Воршы была — і вызначылася, не адступіўшы пад націскам крыжакоў. Але гэта, яны кажуць, доказы ўскосныя.

Сп. Стась, дапамажы!



На аршанскім полі

Гэта вельмі важна. Звяжыся з навукоўцамі, гісторыкамі, з акадэмікамі — хай дакажуць, што пад Грунвальдам былі аршанцы. Добра, каб быў адказ ад Акадэміі Навук на імя Мэра (Майсюк) і адначасна копію мне. Сп. Стась, вельмі прашу, дапамажы. Трэба, дык і грошы заплацім (на дарогу, за паперу, за працу і г. д.) таму, хто дасць станоўчы адказ".

Вось так. Увесь свет ведае пра гераізм аршанцаў на Грунвальдскім полі, а мэр Воршы сумняваецца. Таму рэдакцыя "Нашага слова" ў сваю чаргу звяртаецца да навукоўцаў Беларусі: "Дапамажыце Воршы пераадолець бяспамятства". На нашую думку дастаткова зрабіць некалькі ксеракопій са старых хронік і дасланць іх мэру Воршы, або лепш па адрасу: 211030 г. Ворша, вул. Магілёўская 85-2, кв. 52, Супаненку Ігару, ці на адрас рэдакцыі "Нашага слова". Не палянуйцеся, спадары беларусы, бо, калі не вы, то хто?

# П'еса мясцовага аўтара на сцэне Народнага тэатра

Наш раён даў Беларусі і вядомых паэтаў, і пісьменнікаў, і кампазітараў, і мастакоў. Не было толькі ў нас драматургаў. І вось нядаўна Докшыцкі Народны тэатр паказаў жыхарам раёна п'есу мясцовага драматурга Ф. Палачаніна "Расплата за нелюбоў".

Фёдар Антонавіч Палачанін па прафесіі настаўнік беларускай мовы і літаратуры. А галоўным яго захапленнем ці хобі, як цяпер кажуць, з'яўляецца сцэна. Ён — адзін з вядучых артыстаў Докшыцкага Народнага тэатра.

Добра ведаючы сцэну і вясковае жыццё, Фёдар Антонавіч з часам захапіўся і драматургіяй і нядаўна аддаў Народнаму тэатру адну са сваіх п'есаў.

Сюжэт п'есы — тыповыя малюнкі з жыцця тыповай сучаснай вёскі. Аўтар толькі адграніў іх. Героі камедыі — тыповыя сяльчане — члены адной сям'і — бацька, маці, два сыны, нявестка ды дзве суседкі.

На сцэне ўвесь час гучыць чыстая вясковая беларуская мова, якую не часта пачуеш нават на сцэне сталічных тэатраў. Яна перасыпана трапнымі прымаўкамі і прыказкамі. У зале ўвесь час чуецца вясёлы смех і воплескі.

П'еса Ф. Палачаніна нескладаная па кампазіцыі, лёгкая для пастаноўкі ў звычайным вясковым клубе.

А жыхары горада і раёна спадзяюцца хутка пабачыць на сцэне і іншыя творы маладога, але галоўнае, свайго аўтара.

**І. Фурсовіч, Докшыцы.**

# "Беларусь на крыжы"

Пад такой назвай у віленскай выдавецкай суполцы "Наша будучыня" выйшла кніга Паэзіі беларускай паэтэсы Ніны Ансёнчык.

Мы ставім слова Паэзія з вялікай літары, бо паэзія Ніны Анасёнчык — гэта сапраўды Паэзія.

"Венеды, Ліцьвіны, цяпер — Беларусы.
Гэта мы — старажытны славянскі народ..."

Ад непераможных венедаў, ад вялікіх ліцвінаў і ад нас — беларусаў, такіх розных і вялікіх, і мізэрных; і слынных і занядбаных; і высакародных, і абыякавых вершаваныя абразы паэтэсы.

"Знікаюць з зямлі беларусы,
Як скіфы, яцвягі — гуртом.
Знікаюць без войнаў, прымусу —
Па волі ўласнай сваёй...

Але гэтая кніга — не традыцыйны плач. Гэта летапіс ганьбы і покліч да волі.

## ІЧКЕРЫЯ І БЕЛАРУСЬ

Чачня і Беларусь...
Горы — і балота.
Горды арол — і гусь.
Воля — і бядота.
Амаль што падобны сцяг.
Вораг і доля — тая ж.
Адзін — да свабоды шлях.
Другі — рабом памірае.
Прачніся ж,
Мой родны раб —

Брат ад крыві
да хлеба.
Стань Беларусам,
каб
Арлом узляцець у неба.

НІНА АКСЁНЧЫК

Беларусь на крыжы

Гэтая кніга — вера ў нашую вялікую прышласць.

Дзякуючы паэтэсе, кожны, хто прачытае гэтую кнігу, усвядоміць сябе на крыжы разам з Беларуссю. А з крыжа два шляхі: у небыццё ці да ўваскрашэння.

# СПРАВАЗДАЧНА-ВЫБАРЧАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ ТБМ У ЛІДЗЕ

22 снежня ў Лідзе прайшла гарадская справаздачна-выбарчая канферэнцыя Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

На момант пачатку канферэнцыі было зарэгістравана 87 дэлегатаў і некалькі дзесяткаў гасцей. Вітаў удзельнікаў канферэнцыі фальклёрны ансамбль Лідскага педвучылішча.

Канферэнцыя заслухала справаздачны даклад старшыні Лідскай гарадской арганізацыі Міхася Мельніка і скарбніка Марыі Ганчар, а таксама фактычны судаклад старшыні Лідскай аб'яднанай арганізацыі Таварыства беларускай школы Аляксандра Сокала.

Канферэнцыя прыняла пастанову і абрала новы склад Лідскай гарадской рады ТБМ імя Францішка Скарыны. Варта адзначыць, што адбылося радыкальнае абнаўленне кіраўніцтва арганізацыі, з 11 абраных сяброў рады толькі трое былі ў не папярэднім складзе.

Рада выказала шчырую падзяку Міхасю Мельніку, які восем гадоў кіраваў ТБМ у Лідзе і задаволіла яго просьбу пра адстаўку з пасады старшыні. Новым старшынёй Лідскай гарадской рады ТБМ абраны Лявон Анацка, рабочы ААТ "Лідахарчканцэнтрат", дэпутат Лідскага гарсавета, намеснікам застаўся Міхась Мельнік.



**Міхась МЕЛЬНІК, 8 гадоу адпрацаваў старшынёй Лідскай гарадской рады ТБМ.**

Што ж, сітуацыя, безумоўна, змянілася, мяняюцца і людзі. Але самае галоўнае, што ёсць каму прыйсці на змену тым, хто стаміўся, расчараваўся і г. д. Беларусь пасылае на пярэдні край усё новых сыноў і дачок, і ў гэтым аснова нашай сілы і непераможнасці.

АДСЮЛЬ ПАЧЫНАЕЦЦА БЕЛАРУСЬ

# ПАЛАЖЭННЕ

## аб правядзенні ўсегарадскога конкурса-гульні "Зямля пад белымі крыламі" сярод зборных каманд 9-11 класаў школ г. Ліды і г. Бярозаўкі

*Летась у шэрагу школаў Ліды прайшоў конкурс "Зямля. пад белымі крыламі". Лідская рада ТБМ тады здолела злёгку спрычыніцца да гэтай справы. І вось сёлета гэты конкурс увайшоў у афіцыйныя рамкі, стаў агульнагарадскім, прыхапіў горад Бярозаўку Лідскага раёна іператварыўся ў этап абласнога конкурсу "Галасы гісторыі" у рамках усебеларускай экспедыцыі "Наш край". Сёння рада ТБМ цесна супрацоўнічае з кіраўніцтвам ЦДзЮТЭ. Мы лічым мэтазгодным надрукаваць праграму гэтага конкурсу і не ў якасці павучання ці прыкладу для пераймання, а дзеля чыста інфармацыйных мэтаў, што і так можна ісці да Беларусі.*

**1. Мэты і задачы.**

ЦДЗЮТЭ у рамках II этапау ўсебеларускай экспедыцыі "Наш край" праводзіць гульню-конкурс з мэтай папулярызацыі краязнаўчай дзейнасці школьнікаў, павышэння цікавасці да краязнаўчай тэматыкі. Конкурс садзейнічае станаўленню нацыянальнай свядомасці, патрыятызму, павагі да гістарычнай спадчыны роднага краю.

Гарадскі конкурс-гульня праводзіцца з мэтай вызначэння стану краязнаўчай работы ў школах горада.

Каманда-пераможца гарадскога конкурсу прыме ўдзел у абласным конкурсе краязнаўчай тэматыкі "Галасы гісторыі" (сярод мацнейшых каманд вобласці) (адбудзецца ў г. Ліда з 16 па 22 сакавіка 1998 г.

**II. Месца і час правядзення.**

Конкурс-гульня будзе праводзіцца ў памяшканнях Гарадскога Дома культуры (Купалы, 1) у малым зале, 2 паверх, па наступнаму графіку:

гр. А. — 26 студзеня 1998 г. СШ № 9, 6, 7, 8.

гр. Б. — 27 студзеня 1998 г. СШ № 1, 3, 5, 11.

гр. В. — 28 студзеня 1998 г. СШ № 10, 12, 13, 4.

гр. Г. — 29 студзеня 1998 г. СШ № 14, 16, 15, 17.

гр. Д. — да 30 студзеня 1998 г. СШ № 1, 2, 3 г. Бярозаўкі.

Каманды-пераможцы конкурсу кожнай групы трапляюць у фінал, у якім разыгрываюцца прызавыя месцы.

Фінальная гульня адбудзецца 30 студзеня 1998 г. у памяшканні Гарадскога Дома культуры (Купалы, 1) у малой зале, 2 паверх.

**III. Удзельнікі.**

Да ўдзелу ў конкурсе-гульні запрашаюцца зборныя каманды — 11 класаў школ гарадоў Ліды і Бярозаўкі. Склад каманды 6 чалавек.

**ІУ. Праграма конкурсу-гульні.**

**І. КОНКУРС-ЗНАЁМСТВА "ВІЗІТКА" —**

хатняе заданне. Расказ аб сваёй школе, аб найбольш значных падзеях і постацях (расказ, экскурсія, тэатралізаванае прадстаўленне і г. д.) да 3-х хвілін. Максімальны лік балаў — 4. Колькасць балаў вызначае месца каманды ў гэтым конкурсе.

Крытэрыі ацэнкі — інфармацыйнасць і відавочнасць.

**2. КОНКУРС "ЭКАЛАГІЧНАЯ КРЫЖАВАНКА".**

Для кожнай каманды прапануецца крыжаванка. З аднолькавай колькасцю слоў, аднолькавай ступені цяжкасці.

Камандам даецца кантрольны час, за які яны павінны разгадаць крыжаванку. Па скарачэнню кантрольнага часу свае адказы каманда падае на стол судзейскай камісіі, па адным балу атрымлівае каманда за правільна названае слова. За няправільны адказ, або адсутнасць адказу — 0 балаў. Колькасць балаў вызначае месца каманды ў гэтым конкурсе.

**3. КОНКУРС ЭРУДЫТАЎ**

Напрамак гэтага конкурсу вызначаны як "Літаратурны". Пытанні на веданне біяграфій і твораў пісьменнікаў -землякоў А. Міцеквіча, Э. Ажэшкі, М. Багдановіча. М. Васілька, В. Быкава. А. Карпюка, аб сувязі гэтых людзей з Гарадзеншчынай.

На абмеркаванне камандам даецца адна хвіліна. На працягу гэтай хвіліны любая каманда мае права падняць флажок, што дае права ёй на адказ. За правільны і поўны адказ каманда мае 5 балаў. Калі каманда адказала няправільна, астатнім камандам на абмеркаванне гэтага пытання даецца ўсяго 30 секунд, пасля чаго каманды або даюць адказ, або атрымліваюць па 0 балаў. У выпадку, калі па сканчэнню данай хвіліны ні адна каманда не дае адказу, усім камандам ставіцца па 0 балаў. Лік балаў вызначае месца каманды ў даным конкурсе.

**4. ТАПАНАМІЧНЫ КОНКУРС.**

Патрабуе ведання назваў гарадоў і вёсак Гарадзеншчыны, якія паходзяць ад імя чалавека, жывёлы, расліны, ракі, месца знаходжання. (На лістах паперы кожная каманда піша назвы — І хвіліну). Пры чытанні, тыя, што паўтараюцца — выкрэсліваюцца. Максімальны лік балаў атрымае каманда, у якой застанецца набольш назваў. Колькасць балаў вызначаецца па колькасці застаўшыхся назваў на лістах кожнай з каманд. Колькасць балаў за гэты конкурс вызначыць і месца каманды.

**5. ФАЛЬКЛОРНЫ КОНКУРС. — хатняе заданне.**

Удзельнікі конкурсу павінны ведаць беларускія і іншыя мясцовыя абрады. Павінны паказаць фрагмент абрада, расказаць, чаму і калі ён узнік, выканаць адзін, (або больш) фальклорны твор, песню, танец, прыпеўкі і г. д. На кожную каманду аДводзіцца да 5 хвілін.

Максімальны лік балаў — 4. Крытэрыі ацэнкі — інфармацыйны змест, касцюміраванасць, успрыяцце.

**V. Парадак і тэрмін падачы заяўкі.**

Заяўку на ўдзел каманды ў спаборніцтвах неабходна падаць па тэлефоне 2-92-12 (ЦДзЮТЭ — цэнтр дзіцячага турызму), або ў пісьмовым выглядзе да 20 студзеня, 1998 г.

**VI. Падвядзенне вынікаў.**

Месца каманды вызначаецца па суме набраных месц за кожны конкурс. Каманды-пераможцы паўфінала выходзяць у фінал, дзе сустракаюцца са сваімі сапернікамі. У фінале праграма падобная, толькі заданні больш цяжкія. У фінале разыгрываюцца прызавыя месцы.

Падказка з боку настаўніка — прадстаўніка школы-забараняецца. За кожную падказку каманда атрымлівае штрафныя балы; знімаецца адзін або больш балаў (па меркаванню судзейскай камісіі).

**VII. Узнагароджанне пераможцаў.**

Каманды — пераможцы ўзнагароджваюцца прызамі і дыпломамі. Каманда-пераможца гарадскога конкурсу будзе абараняць гонар горада Ліды на абласных спаборніцтвах.

Уся гульня будзе праводзіцца на беларускай мове. Пытанні будуць падавацца і адказы прымацца толькі на беларускай мове.







*Павел СЦЯЦКО,*
*доктар філалагічных навук, прафесар*

# ЯК "ВЫПРЯМЛЯЛІ" НАШУЮ МОВУ. ПАЗЫЧАННІ ПРАМА, ПРАМЫ, НАПРАМКІ НА МЕСЦЫ БЕЛАРУСКІХ ПРОСТА, ПРОСТЫ, НАПРАСТКІ

Прыслоўе **напрасткі** мае значэнне па простай лініі, самым кароткім шляхам. У Якуба Коласа чытаем: "Па сцежцы, што вілася **напрасткі** ад лесу і бегла праз поле, павольна пасоўваліся якраз сюды дзве чалавечыя фігуры".

Яго, як агульнапашыранае, нармаванае, падаюць акадэмічныя слоўнікі. Так, у "Беларуска-рускім слоўніку" 1962 года бачым: "**Напрасткі** нареч — **прямиком, напрямик**" (с. 491). Побач падаецца і яго менш пашыраны сінонім **напрасцяк** з тымі самымі расейскімі адпаведнікамі **прямиком, напрямик**. Гэтыя лексікаграфічныя артыкулы цалкам захаваныя і ў двухтомавым перавыданні 1988-1989 (Т. І. С. 748).

У аснове прыслоўя **напрасткі** — назоўнік **прасткі**, які захаваўся ў жывой народнай мове і мае значэнне простая, найкарацейшая дарога, што знайшло свой адбітак у прыказцы "Хто пpасткоў шукае, той дома не бывае" (в. Грабава, Зэльвенскі раён).

Усе згаданыя словы паходзяць ад прыметніка просты, роўны, без выгінаў, і ўтворанага ад яго прыслоўя проста, не зварочваючы ўбок.

У расейскай мове ім адпавядаюць словы **прямой, прямо**, што пацвярджаюць і згаданыя слоўнікі: "**Проста нареч**. (не сворачивая в сторону) **прямо; ідзіце проста, потым звярніце налева — идите прямо, потом сверните налево"**. (БРС-62, с. 736; БРС-89, Т. ", с. 288). **"Просты** (ровный, без изгибов) **прямой"** (Тамсама).

І няма ў гэтых слоўніках штучнага, скалечанага "напрамкі", дзе замест кораня — **праст-** бачым пазычанае з расейскай мовы — **прам** (прям). А ўжо "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т. 3. Мн., 1979. С. 290) падае на сваіх старонках і вось гэтую калеку: "**Напрамкі**. Разм. Тое, што і **напрасткі**" (С. 290). Відаць, і гэты выпадак меў на ўвазе Максім Лужанін, калі пісаў, што "у Тлумачальны слоўнік... наўшывалася багата прыкладаў з таго, што ніколі не было літаратурай і можа ілюстраваць хіба няўмельства аўтара абыходзіцца са словам або няўмельства складальніка слоўніка выбраць з твора трапна ўжытае, ва ўсім гучанні і красе роднае слова. А то вушы вянуць..."

На жаль, на месцы лексемаў проста, просты бачым прама, прамы і ў перакладных слоўніках 30-80 гг.

Так, выдадзены ў Маскве ў 1953 годзе "Русско-белорусский словарь" дзеля рэалізацыі ідэі на зліццё моваў падае побач з натуральнымі **проста, просты** і гэтыя **прама, прамы**: "**Прямо** нареч. 1. **проста, прама**; **роўна**; **идите прямо — ідзіце проста (прама); держаться прямо — трымацца проста (прама, роўна).** Праўда, з іншымі значэннямі ў беларускай частцы гэтага штучнага **прама** яшчэ няма. Так, далей бачым: "... 2. (непосредственно) **проста, непасрэдна**; **сразу начнем прямо с дела — пачнём проста (адразу) са справы**; 3. (откровено) **проста, адкрыта, шчыра; будем говорить прямо — будзем гаварыць проста (адкрыта, шчыра)**; 4. (в знач. усилительного слова) **проста, проста-такі**; он **прямо герой — ён проста герой"**.

І вытворныя складаныя словы тут яшчэ амаль не ведаюць гэтага "прам-", а свае адмысловыя адпаведнікі: "Прямодушие — адкрытасць, шчырасць; прямодушный — адкрыты, шчыры... Прямоезжий фолькл. **просты**, прамы; дорогой прямоезжею — дарогай **простаю**. Прямокрылые зоол. **простакрылыя**. Прямолинейно — перен. **просталінейна,** шчыра, адкрыта; Прямолинейность перен. **просталінейнасць,** шчырасць, адкрытасць. Праўда, як матэматычныя і тэхнічныя тэрміны, тут ужо свае словы дублююцца пазычаннямі: **"Прямослойный** спец. **простаслойны**, **прамаслойны. Прямолинейный — просталінейны, прамалінейны**. А некаторыя падаюцца толькі ў пазычаным выглядзе: "Прямоточный техн. **праматочны**; п. котел — **праматочны кацёл. Прямоугольник** мат. **прамавугольнік.**

А вось слова **прямота** перакладаецца адмысловымі беларускімі словамі **"шчырасць, адкрытасць, просталінейнасць"**. А прыметнік **просты** падаецца тут з 8 значэннямі, якім адпавядаюць, як адметныя беларускія словы, так і пазычаныя; **"Прямой** 1 (ровный, без изгибов) **просты, прамы; роўны; прямая дарога— простая дарога. п. путь прям., перен. просты (прамы) шлях; прямое дерево — простое (роўнае, прамое) дрэва; 2. мат. прамы; п. угол — прамы вугал; п. линия — прамая лінія, прямая пропорциональность — прамая прапарцыянальнасць**; 3. (беспересадочный) **прамы;** 4. (непосредственный) **непасрэдны, просты**; **это его прямая обязанность — гэта яго непасрэдны (просты) абавязак, прямой начальник — непасрэдны начальнік**, 5. **(явный) яўны, адкрыты**, **прямой вызов — яўны (адкрыты) выклік,** 6. (бесхитростный) правдивый) **праўдзівы, адкрыты, шчыры, прямой человек — праўдзівы (адкрыты) чалавек,** 7. бясспрэчны, сапраўдны, **прямая выгода — бясспрэчная выгада.** 8. грам. прямая речь — **простая мова; в прямом смысле слова — у простым сэнсе слова; прямой наследник — непасрэдны нашчадак, прямая кишка — прамая кішка.**

У двухтомавым перавыданні гэтага даведніка — "Русско-белорусском словаре" 1982 г. пад рэд. К. Крапівы адмысловае беларускае слова **просты** амаль нідзе ўжо не згадваецца, як эквівалент рас. прямой. Так, на с. 264 другога тома чытаем: **"Прямой** 1. (ровный, без изгибов) **прамы; прямое дерево — роўнае (прамое) дрэва**; 2. мат. **прамы**; 3 **прамы**; 4. **непасрэдны, прамы**;... 8. грам. **просты, прамы, в прямом смысле слова — у прамым сэнсе слова; прямая дарога — прямая (простая) дарога**; **прямой путь — прамы (просты) шлях.**

Тут ужо і заалагічны тэрмін — **прамакрылыя,** а **не прастакрылыя**, як было ў РБС-53. няма ўжо і словаў **просталінейна, просталінейнасць, просталінейны,** а толькі **прамалінейна** г. д. І калі ў РБС-53 з пераносным значэннем выкарыстоўваліся толькі словы з першаю часткай **проста-**, то цяпер скрозь толькі **прама-: прамалінейны** і г. д. Нават слова прямота не мае беларускага эквівалента **просталінейнасць,** а толькі **прамалінейнасць.**

Вось як ішло "выпрямление" белорускай мовы на расейскі лад. Гэты артыкул цалкам перанесены і ў наступныя перавыданні слоўніка — 3-е, 4-е, 5-е (1991, 1993, 1994 гг.). так, у РБС-93 (Т. 3. С. 124-125) ужо **дрэва прамое, дарога і шлях** таксама **прамыя;** праўда, у дужках яшчэ захавалі слова **"просты"**.

У двухтомавым "Беларуска-рускім слоўніку" пад рэдакцыяй К. Крапівы (Мн., 1988/89) н с. 261 і 263 другога тома чытаем: **"Прама** нареч. в разн. знач. **прямо; трымацца прама — держаться прямо; ісці прама — идти прямо**". **"Прамы** в разн. знач. **прямой... у прамым сэнсе слова — в прямом смысле слова**.

А вось слоўнікі адраджэнскіх гадоў паспяхова абыходзяцца сваімі словамі, без пазычання "прама", "прамы". Напрыклад, у "Руска-беларускім фізічным слоўніку" Ул. Самалюковіча, Ул. Пазняка, А. Сабалеўскага (МН.: Навука і тэхніка. 1994. М. 188) чытаем: **"Прямолинейность — просталінейнасць, прямолинейный — просталінейны; прямоугольник — прастакутнік, прямоугольный — прастакутны"**.

Лексічнае гняздо словаў з коранем **прост-(праст-),** як эквівалентаў рас. **прям-** бачым і ў слоўніках 20-х адраджэнскіх гадоў. У В. Ластоўскага чытаем: **"Прямой — просты, проста, прастата, праставаты, просткі, праставаць. Прямоверховое** (дрэва) — **проставерхавае. Прямобокий стол — простабокі. Прямодушие — простадушнасць. Прямолинейный** (кірунак) — **просты, просталеглы**. Прямоугольный (трыкутнік) — **простакутны.** (Падручны Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. Коўна. 1924. С. 576). "Беларуска-расійскі слоўнік" М. Байкова і С. Некрашэвіча (Менск. 1926. С. 250-251) фіксуе: **"Проста — прямо... Простадушна — прямодушно. Простадушнасць — прямодушие. Простадушны — прямодушный. Простакутнік — прямоугольник.**

Сучасны перыядычны друк выкарыстоўвае і слова наўпроставы як эквівалент рас. **прямой**. Напрыклад: Гэты эпізод быў у **наўпроставай** перадачы па тэлебачанні ("Пагоня", 17 верасня 1997 г.). Лексему **наўпроставы** бачым і ў новых тэрміналагічных даведніках. Да прыкладу, у "Расейска-беларускім вайсковым слоўніку" Станіслава Судніка і Сержука Чыслава (Менск, 1997): **прямой азимут — наўпроставы азімут** (с. 11), **прямая видимость — наўпроставая бачнасць** (с. 30), **прямое подчинение — наўпроставае падпарадкаванне, наўпроставае падначаленне** (с. 146).

Як бачым, беларуская мова мае багаты арсенал словаў з коранем **прост** — адпаведнікаў расейскамоўных з **прям-**. Трэба толькі трымацца сваіх каранёў, а не пазычаць, "такія словы, якіх поўна ў мове, якія складаюць аснову мовы" (Я. Скрыган).



# Мова — палітыка

По выніках традыцыйнага штогадовага конкурсу часопіса "Крыніца" за 1997 год у намінацыі "Проза" першае мейсца ўзяў сталы аўтар "Нашага слова" Язэп Палубятка, з чым мы яго віншуем, а чытачам прапануем чарговы артыкул рупліўца беларускай мовы з Мастоў.

Падзеі апошніх гадоў прывялі наша грамадства да ціхай палітычнай палерызацыі; сітуацыі, калі незадаволеная большасць маўкліва ды пакутліва церпіць непажаданую ўладу. Тое супрацьстаянне бярэ свой пачатак ад першага рэферэндуму, ініцыяванага прэзідэнтам. Тут я не збіраюся казаць гучных слоў у абарону мовы (без лішніх доказаў зразумела, што яна была, ёсць і застанецца ў нас адзінай) ці абражаць гонар прэзідэнта, які яе не любіць ды памкнуў на яе змену. Проста хачу паказаць, якія абставіны прымусілі кіраўніка дзяржавы пайсці на гэты крок, што з гэтага выйшла ды чаму і зараз мова застаецца адным з асноўных напрамкаў дзейнасці цяперашняй улады.

Чытаючы перадвыбарчую праграму кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Лукашэнкі, вы не знойдзеце ні радка, дзе б ішла гаворка пра змену дзяржаўнай мовы і сімволікі. Згадкі пра ўсенародны рэферэндум па гэтых пытаннях былі выказаны цяперашнім прэзідэнтам у час ягоных сустрэч з выбаршчыкамі, калі перад адпаведнай аўдыторыяй, каб дапасаваць яе настрою, той ці іншы прэтэндэнт можа выказваць супярэчлівыя меркаванні. Пасля заступлення А. Лукашэнкі на пасаду прэзідэнта ніякія крокі ў гэтым кірунку не чыніліся, хоць ужо год назад кіраўнік дзяржавы, без звяртання ў ВС мог выступіць з ініцыятывай рэферэндуму. Проста ішло актыўнае фармаванне структуры новай улады — прэзідэнцкай вертыкалі, на манер былой КПСС. Савет Міністраў, які павінен быў займацца эканомікай, у сілу некампетэнтнасці не справіўся са сваімі абавязкамі і абяцанні прэзідэнта запусціць заводы ў адпаведны тэрмін не спраўдзіліся. Іх сапраўды запусцілі ў прамым сэнсе гэтага беларускага слова. Эканамічны крызіс працягваўся. Папулярнасць прэзідэнта падала. Ды яшчэ настаў тэрмін выбараў новага складу ВС. Узнікла неабходнасць рашучых дзеянняў дзеля выратавання становішча. Паколькі справіцца з эканомікай прэзідэнцкая каманда не магла, то ўвідавочкі ўзнікла неабходнасць змяніць акцэнты палітычнай дзейнасці. Практычна ўсё разлічана правільна. 50-годдзе перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне абавязкова выклікала ўздым савецкага патрыятызму і настальгію па мінулым. Веснавыя палявыя работы, калі большая частка гараджан мкнецца на лецішчы, каб здабыць нейкі прыбытак да стала, адназначна пазбавяць іх удзелу ў галасаванні. Далей пачала працаваць прапаганда ў стылі добрых мінулых часоў, дзе ўсё пераварочваецца з ног на галаву. (Прыкладам, як людаед з Цэнтральнай Афрыканскай Рэспублікі аб'яўляўся лепшым сябрам СССР).

Справа зроблена, вяскоўцы і местачкоўцы прагаласавалі: чаго жадаеце?

А што далей?

На працягу наступнага года ўсталявалася адноснае зацішша. Спынена пераіменаванне вуліц, перавод справаводства на беларускую мову, але ў галіне адукацыі справа застаецца без істотных змен. Назіраецца як бы затуханне хвалі беларусізацыі, але адкату яшчэ няма. Яшчэ не набрала моцы "вертыкаль", яшчэ застаюцца пры пасадах вылучэнцы хвалі дэмакратызацыі. Чыноўнікі ўсіх ступеняў і ўзроўняў напружана чакаюць: чыя возьме? Паступова, пачынаючы дзесці з вясны 1996 года, усё, як справдечная беларуская сімволіка, так і беларускае слова, сказанае простым чалавекам, па волі ўлады прылічвае апошняга да стану апазіцыі. Нажаль, такое размежаванне здзейсніла сама дзяржава, дакладней тыя, хто ёю кіруе. З гэтага часу пачала ўздымацца новая хваля русіфікацыі. Ініцыятарам, а дакладней рупарам сталі дзяржаўнае радыё і тэлебачанне. Улетку таго ж года пачалося вяртанне да расейскай мовы навучання ў сістэме нашай адукацыі. І ініцыятарамі таго пачынання з'явіліся не бацькі, а самі настаўнікі, тыя, каго завуць інтэлігенцыяй, адукаванымі людзьмі, тыя, хто сее мудрае, добрае, вечнае. Некаторыя з іх хадзілі па хатах і "выбівалі" подпісы бацькоў, каб прадметы ў школе выкладаліся на расейскай мове. Улетку таго ж года пачалося гвалтоўнае знішчэнне беларускамоўных падручнікаў.

Справа пайшла, цяпер вынішчэннем усяго беларускага займаўся не сам прэзідэнт, а звычайныя шараговыя чыноўнікі. А яны, калі загадаюць, заўжды старанна працуюць: глыбокааруць, шырока косяць, густа сеюць, да зоранькі жнуць, рупліва малоцяць, а, калі ўжо штосьці топчуць нагамі, дык, каб там ніколі і нічога не вырасла.

Прыхільнікі беларускага слова выказалі супраціў гэтаму бязглуздаму, недарэчнаму гвалту. Распачалося самае звычайнае змаганне прыхільнікаў і душыцеляў беларускай мовы. Апошніх, як ні дзіўна, падтрымліваюць дзяржаўныя структуры ўлады. Хоць згодна з элементарнай логікай, калі ўжо дзяржава мае назву Беларусь, дык павінна абараняць сваю мову. А вышла наадварот, вольна ці не вольна улада надала звычайнаму, адназначна вырашанаму ў цывілізаваных краінах пытанню, выгадны для сябе палітычны аспект. І пэўна ўжо, наўмысна правяла мяжу канфрантацыі і той мяжой стала беларуская мова.

Мова — стала палітыкай. Барацьба гэта не заціхае і зараз. Раз-пораз яе ініцыятарам выступае прэзідэнт. Тое яму дае палітычныя дэвідэнты. Прыкладам, чаго варты наступны правакацыйны запыт: "А ці можна замяніць вывучэнне беларускай мовы на ангельскую?" А яшчэ больш страшны і недарэчны адказ : "Вы задалі вельмі актуальнае пытанне..."

А, сапраўды, вельмі актуальнае пытанне, да якога нас змусілі аднесціся прынцыпова і адстойваць усімі магчымымі і немагчымымі сродкамі: Дзяржава і МОВА.

Мы — пераможам.

**Язэп ПАЛУБЯТКА.**

